# Голас Радзімы

№ 50 (2140)
14 снежня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Як мы паведамлялі, калектыў Беларускага вытворчага аб'яднання «Экран» у садружнасці з вучонымі АН БССР выпусціў 50 першых доследных радыеметраў-індыкатараў «Сасна». Гэтыя прыборы прызначаны для індывідуальнага выкарыстання насельніцтвам з мэтай кантролю забруджанасці радыенуклідамі. Сёлета ў аб'яднанні выпусцяць яшчэ 300 прыбораў, а ў наступным годзе — 30 тысяч штук. Зразумела, гэта вельмі мала, але трэба мець на ўвазе: падобныя прыборы будуць вырабляць яшчэ некалькі прадпрыемстваў Беларусі. Можна толькі пашкадаваць, што такую вельмі патрэбную прадукцыю не пачалі выпускаць гады тры назад.

**НА ЗДЫМКАХ:** галоўны канструктар па тавараx народнага спажывання аб'яднання В. ЛАБАЧОЎ і начальнік канструктарскага бюро Л. ТАЛМАЧОЎ; вось ён, доўгачаканы радыеметр-індыкатар.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

## СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

Нялёгкія часы перажывае эканоміка нашай рэспублікі — састаўная частка народнагаспадарчага комплексу краіны. Узмацняецца напружанасць на спажывецкім рынку. Як спыніць нарастанне негатыўных працэсаў, зрабіць так, каб працоўныя хутчэй убачылі рэальныя вынікі не ўчора пачатай перабудовы? Зацікаўлена, кампетэнтна, часам вельмі эмацыянальна шукалі адказ на гэтыя пытанні ўдзельнікі сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, якая прайшла ў Мінску.

На разгляд Вярхоўнага Савета ўносіліся вельмі значныя і актуальныя пытанні: аб выбарах народных дэпутатаў БССР і мясцовых Саветаў; Дзяржаўным плане эканамічнага і сацыяльнага развіцця на наступны год; Дзяржаўным бюджэце БССР; аб недакладных мерах па ўмацаванню дысцыпліны і грамадскага парадку. Старшыня Савета Міністраў БССР М. Кавалёў адказаў на запыт групы дэпутатаў, былі таксама зацверджаны Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі.

На сесіі было прынята рашэнне назначыць выбары на 4-е сакавіка 1990-га года. Згодна з Канстытуцыяй БССР і адпаведнымі законамі, Вярхоўны Савет рэспублікі будзе складацца з 360 дэпутатаў. 310 з іх выбіраюцца непасрэдна ў выбарчых акругах, а 50 — чатырма грамадскімі арганізацыямі: саветам ветэранаў вайны і працы, таварыствамі інвалідаў, сляпых і глухіх.

З вялікім дакладам аб Дзяржаўным плане эканамічнага і сацыяльнага развіцця Беларусі на 1990-ты год выступіў перад дэпутатамі старшыня Дзяржплана БССР В. Кебіч. Ён ахарактарызаваў эканамічнае становішча рэспублікі, вызначыў далейшыя галоўныя напрамкі развіцця. Вялікая ўвага тут павінна быць нададзена сацыяльнай сферы. Дакладчык спыніўся таксама на навукова-тэхнічным прагрэсе, мерах па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, экалагічным аздараўленні.

Агульнаэканамічныя паказчыкі плана на 1990 год вызначаны, зыходзячы з намячаемага развіцця матэрыяльнай вытворчасці і павышэння яе эфектыўнасці, першачарговага накіравання рэсурсаў у сацыяльную сферу. Важнейшыя з іх, якія характарызуюць дынамізм эканомікі, маюць у праекце плана даволі высокія тэмпы прыросту: па валавому нацыянальнаму прадукту ён намячаецца на ўзроўні 6 працэнтаў, атрыманаму нацыянальнаму даходу — 5,1 працэнта да плана 1989 года. Гэта вышэй, чым паказчыкі па Саюзу. Апярэджанне тэмпаў развіцця эканомікі будзе праходзіць ва ўмовах, калі вытворчасць нацыянальнага даходу на душу насельніцтва ў рэспубліцы перавышае сярэднесаюзны ўзровень.

Адзначалася, што 1990 год з'явіцца для рэспублікі важным этапам у рэалізацыі радыкальнай рэформы. Гэта звязана перш за ўсё з тым, што Беларусі ў ліку першых трэба будзе весці адпрацоўку новага механізма тэрытарыяльнага кіравання ва ўмовах самакіравання і самафінансавання.

Істотна мяняецца характар эканамічных узаемаадносін паміж рэспублікай і саюзнымі органамі. На нарматыўную аснову пастаўлена фарміраванне бюджэту. Расшырана сфера гаспадарання за кошт перадачы ў непасрэднае веданне рэспублікі многіх прадпрыемстваў, аб'яднанняў і цэлых галін. Пачата перабудова фінансава-крэдытнай сістэмы, планавання і цэнаўтварэння.

Але трэба мець на ўвазе, што зроблены пакуль толькі першыя крокі. Дэталёвая адпрацоўка элементаў новага механізма тэрытарыяльнага гаспадарання будзе праходзіць ва ўмовах рэалізацыі плана наступнага года.

ФЕСТЫВАЛЬ

## «ПЯЦЬ ДЗЁН З СЯРГЕЕМ ПРАКОФ'ЕВЫМ»

Фестываль гэты — «генеральная рэпетыцыя» перад вялікімі ўрачыстасцямі, якія намечаны на 1991 год з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння славутага савецкага кампазітара.

У гэтыя дні мінчане і госці сталіцы рэспублікі атрымалі магчымасць не толькі ўбачыць і пачуць усе пастаноўкі пракоф'еўскіх оперных і балетных твораў, ажыццёўленых на сцэне Вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР, але і сустрэцца з масцітымі музыказнаўцамі, тэатразнаўцамі, рэжысёрамі, выканаўцамі, гэта значыць тэарэтыкамі і практыкамі, якіх аб'ядноўвала любоў да таленту С. Пракоф'ева, яго музыкі. На фестываль прыехалі вядомыя рэжысёры, якія маюць на сваім рахунку нямала пракоф'еўскіх спектакляў, з дакладамі на ім выступілі маскоўскія і ленінградскія музыказнаўцы.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## ФОНД ЗДАРОЎЯ ДЗЯЦЕЙ

Рэспубліканскі дабрачынны фонд па барацьбе са СНІДам у дзяцей створаны ў Мінску. Сярод яго заснавальнікаў Беларускае аддзяленне Савецкага дзіцячага фонду імя Леніна, Навукова-даследчы інстытут аховы маці і дзіцяці Міністэрства аховы здароўя БССР, больш за 50 медыцынскіх і спартыўна-культурных кааператываў, савецка-амерыканскае прадпрыемства «Інтэрпрыбор». Прэзідэнтам фонду стаў вядомы беларускі кінарэжысёр Міхаіл Пташук.

ЮБІЛЕЙ ВУЧОНАГА



Споўнілася 50 гадоў выдатнаму беларускаму вучонаму-матэматыку, акадэміку, лаўрэату Ленінскай прэміі, прэзідэнту Акадэміі навук Беларусі Уладзіміру Платонаву. Што ён паспеў зрабіць за такі час! На гэта пытанне падрабязней за ўсё маглі б адказаць у Інстытуце матэматыкі АН БССР, з якім вучоны звязаны амаль дваццаць гадоў. Дарэчы, лёс У. Платонава складваўся даволі паспяхова. У 23 гады ён атрымаў першае навуковае званне — абараніў кандыдацкую дысертацыю, доктарскую — у 26. У 29 гадоў быў выбраны членам-карэспандэнтам, а ў 32 — акадэмікам АН БССР. Упершыню за ўсю гісторыю Аддзялення матэматыкі АН СССР тайнае галасаванне дало стопрацэнтны вынік — усе акадэмікі-матэматыкі краіны прагаласавалі за выбранне У. Платонава правадзейным членам Акадэміі навук СССР. Аўтарытэт Платонава складваўся не адзін год. Ён зрабіў у матэматыцы тое, што здолелі вельмі многія вучоныя. Канкрэтна — вырашыў праблему апраксімацыі, пастаўленую яшчэ ў 1937 годзе; праблему Танака — Арціна, пастаўленую ў 1943 годзе; Кнезерса — Пітса — цэнтральную праблему тэорыі алгебраічных груп.

Платонаў з'яўляецца адным са стваральнікаў арыфметычнай тэорыі алгебраічных груп — навуковага напрамку на стыку тэорыі груп, алгебраічнай геаметрыі і алгебраічнай тэорыі лікаў. Пры яго ўдзеле праведзены вялікі цыкл прыкладных работ па матэматычнаму мадэліраванню ў мікраэлектроніцы.

НА ЗДЫМКУ: акадэмік Уладзімір ПЛАТОНАЎ.

БУДАЎНІЦТВА

## ПРАДУКТЫ ЗАМЕСТ АТАМА

Зноў закіпела работа на апусцелай будаўнічай пляцоўцы былой Мінскай атамнай цеплаэлектрацэнтралі. Працягваецца ўзвядзенне карпусоў, складскіх памяшканняў, жылля. Толькі цяпер усе гэтыя аб'екты паслужаць не каварнаму атаму, а бяспечнай і вельмі патрэбнай для рэспублікі галіне — перапрацоўчай.

Будаўніцтва Мінскай АЦЭЦ было спынена па патрабаванню беларускай грамадскасці. Але нядоўга велізарныя карпусы і пасёлак для абслуговага персаналу заставаліся без гаспадара. Удалы варыянт выкарыстання аб'ектаў прапанавала рэспубліканскае аб'яднанне мяса-малочнай прамысловасці. Сумесна з фірмай з Ліхтэнштэйна ў былым пасёлку атамшчыкаў Дружны пачата будаўніцтва буйнога мясакамбіната.

Галоўная вартасць новага прадпрыемства — абсалютная экалагічная бяспека. Ні адходаў, ні брудных сцёкаў на камбінаце не будзе, сучаснае абсталяванне ўдала «ўпісалася» ў пабудаваныя памяшканні. Найноўшыя аўтаматызаваныя лініі, якімі ўзяліся аснасціць камбінат замежныя партнёры, змогуць даваць у суткі больш за дзвесце тон каўбасы, вэнджаніны, фасаванага мяса выдатнай якасці. Дзве трэціх гэтых прадуктаў трапіць на стол жыхароў рэспублікі, трыццаць працэнтаў плануецца экспартаваць для пакрыцця валютных расходаў. У канцы 1991 года прадукцыя з маркай сумеснага прадпрыемства паявіцца на прылаўках беларускіх магазінаў.

НОВЫЯ ТАВАРЫ

## «МАЛЫШ» НА ПАДЫХОДЗЕ

У аб'яднанне «Гомсельмаш» паступае мноства пісем з розных рэгіёнаў СССР і з-за мяжы з пытаннем: калі можна будзе набыць яго новы мінітрактар «Малыш»?

Для вытворчасці агароднага трактара, які можна прыстасоўваць да многіх прычапных прылад, патрабуецца спецыяльнае прадпрыемства. З гэтай мэтай вырашана перапрафіліраваць завод «Светлагорскcкармаш». Уся неабходная дакументацыя будзе падрыхтавана к канцу снежня. Тады і пачнецца паступовы пераход на выпуск неабходнай тэхнікі для арандатараў і тых, хто вядзе прысядзібную гаспадарку. Праектная магутнасць завода — 20 тысяч машын у год. Словам, нарэшце сяльчане змогуць атрымаць умелага і незаменнага для работы ў садзе і на агародзе «Малыша».

СПАДЧЫНА

## ВЫВУЧАЮЧЫ РОДНЫЯ КАРАНІ

«Бацькаўшчына» — так называецца гісторыка-культурнае аб'яднанне, створанае пры Салігорскім краязнаўчым музеі. У яго ўвайшлі рабочыя, служачыя, тэхнічная інтэлігенцыя горада — усе, каго хвалюе гісторыя беларускага народа, яго самабытная культура, мова.

У членаў аб'яднання нямала цікавых задумак, частка якіх ужо ажыццяўляецца. Гэта сустрэчы з гісторыкамі, публіцыстамі, пісьменнікамі, экскурсіі ў музеі і памятныя мясціны, экспедыцыі па раёне.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## З НАДЗЕЯЙ—У ГОД 2000-ны

**У рэспубліканскім прэс-цэнтры адбылася чарговая прэс-канферэнцыя на вельмі балючую і актуальную для ўсяго нашага грамадства тэму — рэалізацыя жыллёвай праграмы. Як вядома, распрацавана праграма на перыяд да 2000-га года: маркуецца, што менавіта за такі тэрмін удасца задаволіць усе сем'і ў рэспубліцы асобнай кватэрай ці домам. Вось журналісты і хацелі пачуць ад кіраўнікоў будаўнічай галіны, усіх тых, хто непасрэдным чынам нясе адказнасць за выкананне намечанага плана: як жа ідуць справы!**

На прэс-канферэнцыі было паведамлена, што ў цэлым план па ўводу жылля ў Беларусі за кошт усіх крыніц фінансавання пакуль выконваецца і ў 12-й пяцігодцы павінна быць пабудавана 523 тысячы кватэр або асобных дамоў. Але з далейшага стала зразумелым, што сітуацыя тым не менш па-ранейшаму трывожная. У прыватнасці, няма ўпэўненасці, што запланаваная колькасць новых кватэр да 2000-га года менавіта тая, што рэальна можа спатрэбіцца. З боку журналістаў выказаліся апасенні, што пры састаўленні праграмы не былі ўлічаны ўсе фактары з тых, якія могуць паўплываць на рост жыллёвай чаргі, што складальнікі праграмы галоўным чынам арыентаваліся на магчымасці наяўнай будаўнічай індустрыі, а не на рэальныя патрэбы ў жыллі з улікам агульных аптымальных норм забеспячэння ім. Да таго ж апошнім часам замест таго, каб далей паскарацца, тэмпы будаўніцтва замарудзіліся. У выніку чарга на жыллё ў Мінску не толькі не паменшала, але нават павялічылася. Намеснік старшыні гарвыканкома Г. Цішкевіч прывёў такія лічбы: сёння Мінск па тэмпах росту жыллёвага фонду сярод савецкіх гарадоў з мільённым насельніцтвам займае толькі 17-е месца, па забяспечанасці гандлёвымі плошчамі — 14-е, бальніцамі і паліклінікамі — 21-е. Таму зараз у горадзе вырашылі часова закансерваваць тыя будоўлі, што не маюць дачынення да сацыяльна-бытавой сферы, не пачынаць новыя, а максімум сіл накіраваць на будаўніцтва жылых дамоў, школ, бальніц, магазінаў і г. д. Наогул у рэспубліцы пакуль становішча складваецца так, што, каб чалавеку атрымаць кватэру па чарзе ў раённым выканаўчым камітэце, трэба чакаць 12-18 гадоў.

Не выконваюцца планы будаўніцтва жылля за кошт насельніцтва —кааператыўных і індывідуальных дамоў. У значнай ступені справу тармозіць катастрафічны недахоп будаўнічых матэрыялаў. Асабліва цяжка прыходзіцца тут індывідуальным забудоўшчыкам і, галоўным чынам, у сельскай мясцовасці. Міністр прамысловасці будматэрыялаў В. Більдзюкевіч запэўніў, што Беларусь будзе цалкам забяспечана будматэрыяламі. Але толькі ў 1994-м годзе. На сёння падведамасная яму галіна вытворчасці, такая, як ёсць, рэзерву практычна не мае. Ёй патрэбуецца расшырэнне і мадэрнізацыя, менавіта гэтым зараз і занята міністэрства, запэўніў міністр. Усё сказанае добра, але да 1994-га яшчэ доўгіх пяць гадоў. Таму сярод прапанаваных выйсцяў настойліва гучала: трэба эканоміць рэсурсы і максімальна эфектыўна выкарыстоўваць усе тыя пабудовы, што ёсць у наяўнасці. У беларускіх вёсках зараз стаіць каля 60 тысяч пустых хат, у якіх ніхто не жыве. На 70 працэнтаў гэта старыя дамы, якія знаходзяцца ў незадавальняючым стане. І тым не менш калгасам і саўгасам рэкамендавана выкупляць іх ва ўладальнікаў, рамантаваць і даваць тым, у каго няма жылля. За тры апошнія гады такім чынам вернута ў эксплуатацыю каля пяці тысяч дамоў у вёсках. Што тычыцца магчымасці эканоміі рэсурсаў, то для пацвярджэння ідэі прагучаў такі прыклад: Беларусь зараз вымушана завозіць з іншых месцаў краіны 500 тысяч кубічных метраў хваёвых піламатэрыялаў, гэта сапраўдны дэфіцыт. Але разам з тым нярэдка можна бачыць зробленыя з іх трохметровыя платы. Пра якую ж эфектыўнасць выкарыстання можа ісці тут размова?

Узнімалася ў час сустрэчы і праблема якасці, камфартабельнасці, памераў нашага жылля. Старшыня Дзяржбуда БССР Ю. Пуплікаў паведаміў, што ў Беларусі сёння сярэдняя агульная плошча кватэры 67 квадратных метраў. Што і казаць, нямнога. І ўсе разлікі жыллёвай праграмы вяліся таксама, зыходзячы з нарматыву далёка ад ідэальнага — 12 квадратных метраў на 1 чалавека. Безумоўна, не раскоша але большага краіна пакуль проста не зможа даць, і з гэтым неабходна лічыцца. Выклікаюць нараканні, і справядлівыя, захапленне вышыннымі жылымі дамамі, павальнае выкарыстанне буйнапанельнага домабудавання, сапраўды ўбогая архітэктура. Вось тут, як здаецца, ёсць рэальная магчымасць для паляпшэння стану ў даволі сціслыя тэрміны.

Ужо ў самым канцы прэс-канферэнцыі прагучала пытанне, якое сам яго аўтар назваў «дзіцячым»: дык ці рэальна, каб кожная сям'я да 2000-га года мела асобную кватэру ці дом? Як лічаць самі прысутныя кіраўнікі? На жаль, пэўнага адказу не паследавала...

## НОВЫЯ МЕТАДЫ КІРАВАННЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКАЙ

# АДМОВА АД АДМІНІСТРАЦЫЙНАГА ДЫКТАТУ

—Трэба ўсямерна садзейнічаць развіццю ініцыятывы сялян. Ствараць умовы, каб яны самі вырашалі: як скарыстоўваць зямлю, што вырошчваць, куды накіроўваць укладанні, каму і па якой цане прадаваць прадукцыю.

Так сфармуляваў у гутарцы з палітычным аглядальнікам АДН Львом ВАСКРАСЕНСКІМ праграмную мэту Дзяржаўнай камісіі па харчаванню і закупках — новага ўрадавага органа кіравання аграпрамысловым комплексам краіны — яе старшыня Уладзілен НІКІЦІН, які мае да таго ж ранг першага намесніка Старшыні Савета Міністраў СССР.

*— Дзяржкамісія па харчаванню і закупках у нейкай меры з'яўляецца правапераемнікам былога Дзяржаграпрома СССР, а таму заканамернае пытанне: у чым прынцыповае адрозненне новага органа кіравання АПК ад старога?*

— Кіраўніцкі апарат Камісіі—1 029 чалавек, у чатыры разы меншы, чым было ў Дзяржаграпроме СССР. Але справа не ў колькасці кіраўнікоў, а ў іх функцыях, паўнамоцтвах. Я супраць агульнага ганьбавання апарату наогул, без уліку кампетэнтнасці «апаратчыкаў» і рэзультатыўнасці іх дзейнасці. Ва ўсіх краінах свету, ва ўсе часы апарат кіравання быў, ёсць і, відаць, не хутка знікне. Іншая справа — хто і як працуе, якія ставяцца задачы і якімі сродкамі яны дасягаюцца.

*— Ну а як можна сфармуляваць вашы намеры?*

— Для рэалізацыі задач, пастаўленых перад новым урадавым органам кіравання АПК, будзем ствараць адпаведныя прававыя ўмовы, радыкальна мяняць эканамічныя адносіны на вёсцы, забяспечваць прынцыпова новы падыход да форм уласнасці. Тут важна развязаць рукі сялянам, даць свабоду калгасам, саўгасам, арандатарам, сялянскім гаспадаркам і іх кааператывам для творчасці і прадпрымальнасці.

Вастрыня харчовай праблемы ў немалой ступені звязана з нездавальняючымі тэмпамі развіцця і якасная ўдасканалення матэрыяльна-тэхнічнай базы аграпрамысловага комплексу. Вытворчы патэнцыял калгасаў, саўгасаў, перапрацоўчых і іншых прадпрыемстваў рос крайне марудна. **Каля дзвюх трэціх калгасаў і саўгасаў маюць фондааснашчанасць у два разы ніжэйшую за нарматыўную. У такіх гаспадарках, як правіла, слаба механізаваны працаёмкія працэсы вытворчасці, не развіта сацыяльная інфраструктура, адчуваецца востры недахоп кадраў, што ў сукупнасці і з'яўляецца адной з галоўных прычын іх адставання.**

У асабліва запушчаным стане знаходзяцца прадпрыемствы харчовай прамысловасці. На працягу доўгага часу на развіццё перапрацоўчых галін не вылучаліся ў неабходных аб'ёмах капітальныя ўкладанні і не абнаўлялася абсталяванне. **Трэць машын і абсталявання адпрацавалі два і больш амартызацыйныя тэрміны, больш чвэрці — не адпавядаюць сучасным патрабаванням.**

Карацей кажучы, наспела вострая неабходнасць карэннай перабудовы і вытворчых адносін, і прадукцыйных сіл, глыбокіх структурных змен у эканоміцы і сацыяльнай сферы. Размова ідзе як пра калгасы і саўгасы, так і пра арандатараў і сялянскія гаспадаркі.

*— Хвіліну, тут трэба зрабіць удакладненне. Вы гаворыце пра калгасы, саўгасы, вытворчыя кааператывы, арандатараў, уладальнікаў сялянскіх гаспадарак, гэта значыць фермераў. Ці азначае гэта, што ўсім катэгорыям гаспадарак трэба забяспечыць свабоду для іх эканамічнага развіцця ў аднолькавай меры?*

— Безумоўна! Падкрэсліваю гэта з усёй пэўнасцю: у аднолькавай меры. І буйное сельскагаспадарчае прадпрыемства, і ферма... аўтаномны кааператыў, і асабістае пад... е сельскага жыхара ці гараджаніна, які атрымлівае асноўны даход ад удзелу ў грамадскай ці дзяржаўнай вытворчасці, павінны мець аднолькавыя ўмовы для інтэнсіўнага развіцця...

*— І для канкурэнцыі адзін з адным на рынку? Для таго, каб даказаць сваё права на жыццё?*

— А чаму б і не?! Умовы сацыялістычнага рынку, які фарміруецца цяпер, выяўяць жыццядольнасць той ці іншай формы арганізацыі працы. Грамадская карысць, рэзультатыўнасць, рост прадукцыйнасці працы, зніжэнне сабекошту — гэта, па сутнасці, галоўны крытэрый пры ацэнцы таго ці іншага віду і формы працоўнай дзейнасці. Пераможа тое, што акажацца для народа найбольш выгадным. Цяпер, думаецца, гутарка ідзе не пра пошукі якой-небудзь прыярытэтнай мадэлі, а пра тое, каб выкарыстаць рэзервы ўсіх разнавіднасцей сацыялістычнага гаспадарання: моцны, высокарэнтабельны калгас, моцны кааператыў, моцны фермер, тавары «прысядзібны ўчастак»—нам трэба і тое, і другое, і трэцяе...

Цяпер пра іншыя функцыі Дзяржкамісіі. Адна з іх — устанаўленне эквівалентнага парытэту міжгаліновага і міжтэрытарыяльнага эканамічнага ўзаемадзеяння. Змяненні цэн, што праводзіліся раней, не забяспечвалі эквівалентнасці абмену паміж сельскай гаспадаркай і прамысловасцю, аднолькавыя ўмовы для вытворцаў унутры аграрнага сектара, а таксама тэрытарыяльным фарміраванні.

Далейшае паглыбленне ўнутрысаюзнага раздзялення працы, спецыялізацыі і кааперацыі рэспублік, міжрэспубліканскай інтэграцыі, фарміраванне агульнасаюзнага сацыялістычнага рынку ва ўмовах рэгіянальнага гаспадарчага разліку і самафінансавання, а таксама планавага кіравання народнай гаспадаркай выклікае неадкладную неабходнасць ствараць эканамічны механізм, які забяспечвае эквівалентнасць у міжрэгіянальным і міжгаліновым абмене ў р... адзінага працэсу расшыранага ... ўлення ў сферы матэрыяльнай вытворчасці і адначасова забяспечвае сацыяльную роўнасць ва ўзроўні жыцця па рэгіёнах краіны.

Галоўная крыніца ўзнікнення неэквівалентнасці — адсутнасць збалансаванай сістэмы цэн, валюнтарызм у цэнаўтварэнні, асабліва ў суадносінах паміж цэнамі на сродкі вытворчасці прамысловага паходжання і на рэалізуемую сельскагаспадарчую сыравіну.

Асобае месца ў нашай будучай рабоце зойме падрыхтоўка праектаў буйных дзяржаўных праграм па нарошчванню тых ці іншых відаў харчавання з улікам шырокага ўкаранення дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу і найбольш поўнага выкарыстання асаблівасцей і магчымасцей кожнага рэгіёна краіны.

Нарэшце, трэба сказаць пра работу па фарміраванню агульнасаюзных харчовых фондаў. Гэта выклікана спецыялізацыяй вытворчасці і неабходнасцю рэгуляваць рэсурсы паміж рэспублікамі на эквівалентнай аснове.

*— Хто ажыццяўляе аператыўны кантроль за пастаўкамі ў гэтыя фонды?*

— Дзяржкамісія. Яна кантралюе іх і разам з рэспублікамі, краямі і абласцямі забяспечвае выкананне ўрадавых заданняў.

*— Прыватнае, але немалаважнае пытанне: як ідзе рэалізацыя пастановы Савета Міністраў СССР аб закупках высакаякаснага збожжа і насення масленічных культур на ўнутраным рынку за валюту?*

— Па ацэнках спецыялістаў, у першы год эксперымента, калі рашэнне яўна спазнілася, гаспадаркі-вытворцы могуць атрымаць ад 400 да 700 мільёнаў інвалютных рублёў.

Год быў не з простых: некаторыя жытніцы Расіі і Казахстана пацярпелі ад засухі, у шэрагу гаспадарак склалася вельмі цяжкае становішча. І ўсё-такі рашэнне ўрада, пра якое ідзе гутарка, дасць адчувальныя вынікі. Пры больш спрыяльных акалічнасцях яны значна палепшацца.

# «ДВАЙНОЕ ДНО» КАНТРАБАНДЫ

Багатую экспазіцыю маглі б скласці творы мастацтва, якія затрымалі пры спробе вывезці за мяжу работнікі Брэсцкай таможні. У двайным дне і вечку кардоннай скрынкі з кнігамі, бакавінах упакоўкі карцін, якія дазволена вывозіць, было знойдзена 175 графічных аркушаў, малюнкі, афорты, некалькі работ, напісаных алеем. Іх спрабаваў вывезці ў ФРГ жыхар Саратава. Накіроўваўся ён туды па прыватнай візе. Канфіскаваная кантрабанда — гэта ў асноўным творы маладых мастакоў Расіі.

— Работы, безумоўна, таленавітыя, хаця за імі стаяць многія новыя для мяне імёны, — гаворыць мастацтвазнавец-кантралёр Раіса Кучарэнка. — Іх мастацкую значнасць могуць устанавіць эксперты з Масквы. Але нават па пераліку аркушаў з указаннем мяркуемых цэн можна лічыць, што сума канфіскаванага вылічваецца дзесяткамі тысяч рублёў. І зусім непераканаўча гучыць тлумачэнне затрыманага камерсанта ад мастацтва, што прыхапіў ён работы для кваліфікаванай ацэнкі на Захадзе, а затым усе да адной прывёз бы назад у СССР.

Падобныя выпадкі да таго ж, нараджаюць пытанне: ці перабудавалі свае ўзаемаадносіны з маладымі талентамі Саюз мастакоў СССР і мастацкія фонды краіны? Відаць, яшчэ не мінулі тыя часы, калі аб новых яркіх талентах нашых суайчыннікаў мы будзем даведвацца з замежных крыніц.

Зрэшты, тут, на заходняй граніцы, было нямала затрымана тых, хто спрабаваў вывезці з краіны шэдэўры мастацтва, антыкварыяту. Нагляднае сведчанне таму — музей выратаваных каштоўнасцей, які ў пачатку гэтага года адкрыты ў Брэсце. Чаго тут толькі не ўбачыш! Сярод яго экспанатаў — арыгіналы Айвазоўскага, Мясаедава, вядомых заходнееўрапейскіх жывапісцаў, наборы туалетных прыналежнасцей славутай фірмы «Фабержэ», сотні старадаўніх ікон, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, іншыя рарытэты. Розныя эпохі, стылі, сюжэты, тэхніка выканання. Кожны, хто прыходзіць сюды, зведае двоякае пачуццё. З аднаго боку, — радасць ад сустрэчы з творчасцю сапраўдных майстроў, гонар за прафесіяналізм пагранічнікаў і таможнікаў, якія змаглі вярнуць народу такія вялікія матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці. З другога, — горыч, калі задумаешся над тым, як і адкуль гэта ўсё трапіла ў музей.

— Мы заўсёды рады тым турыстам, якія перасякаюць граніцу з добрымі намерамі, — гаворыць начальнік Брэсцкай таможні Мікалай Алексяюк. — Але, адчуўшы нажыву, да нас накіраваліся і вопытныя міжнародныя перакупшчыкі. Тут яны карыстаюцца паслугамі дамарослых «камерсантаў», для якіх бізнес на творах мастацтва і антыкварыяце стаў сапраўднай залатой жылай.

Сітуацыя ўскладняецца і цяжкім становішчам на таварным рынку краіны. Часта ж нават шэдэўры здабываюцца за бясцэнак—пару відэакасет, касметыку, партыю жаночых калготак. Выканаўцамі злачыннай волі тых, хто спрабуе правезці кантрабанду, магло б пазайздросціць любое разведведамства. Тут і двайное дно чамаданаў, і абцасы з «сакрэтам», і нават замаўляныя ў зацішных кутках вагонаў магнітныя кантэйнеры. З усім гэтым не раз сустракаліся пагранічнікі і таможнікі. Але галоўная праблема тут, відома, не ў тайніках і ўстаўках ва ўпакоўку, а ў маралі, сумленні ці больш пэўна ў яго адсутнасці ў тых, хто рабуе краіну, спрабуе пераправіць за мяжу нацыянальны здабытак.





Дзелавое супрацоўніцтва савецкіх вытворцаў з замежнымі партнёрамі становіцца ўсё больш характэрнай рысай нашага сучаснага жыцця. Карысць такога падыходу ўжо відавочная. Адна з найбольш плённых галін для супрацоўніцтва — камп'ютэрызацыя. Каб паскорыць гэты працэс, у краіне ствараюцца сумесныя прадпрыемствы. Адно з іх — савецка-амерыканскае «Дыялог». Магілёўскі яго філіял існую крыху больш за паўгода. Аднак за кароткі час калектыў змог наладзіць цесныя сувязі з прамысловымі прадпрыемствамі не толькі горада, але і іншых абласцей рэспублікі. Сёння камп'ютэры і фірменныя праграмныя сродкі ўкараняюцца на магілёўскіх заводах «Электрарухавік», «Ліфтмаш», аўтамабільным, Віцебскім тэлевізійным заводзе і іншых. У ліку асноўных задач Магілёўскага філіяла — распрацоўка праграм для аўтаматызацыі вытворчых працэсаў праграмна-апаратных комплексаў вытворчага і медыцынскага прызначэння, аказанне сервісных паслуг, пошук перспектыўных напрамкаў дзейнасці. Аказвае дапамогу «Дыялог» прадпрыемствам і ўстановам і ў навучанні спецыялістаў рабоце на камп'ютэрах.

Звярнуліся за дапамогай да замежных партнёраў і на першай Мінскай птушкафабрыцы. У цэху паўфабрыкатаў і каўбасных вырабаў устаноўлена італьянская лінія па ўзважванню і ўпакоўцы куранят. Усе працэсы на ёй аўтаматызаваны. У наступным годзе такія ж лініі з'явяцца на Віцебскай, Гомельскай і Магілёўскай бройлерных фабрыках.

**НА ЗДЫМКАХ:** на магілёўскім аўтамабільным заводзе ў аддзеле галоўнага канструктара з дапамогай сумеснага прадпрыемства «Дыялог» устаноўлены персанальныя камп'ютэры, якія абслугоўваюць інжынеры-канструктары **В. ПАЎЛАЎ** і **М. ГАЛАВАЦКІ**; італьянскія спецыялісты Джані **МАРКІОРА** і Джан-П'еро **РЫВОЛІ** дзеляцца са слесарам Міхаілам **ПАШКО** (у цэнтры) сакрэтамі наладкі лініі на Мінскай птушкафабрыцы.

Фота С. ЖАЛУДОВІЧА і У. МЯЖЭВІЧА.

## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»




Сустрэча ў друку з такім цікавым аўтарам, як доктар філасофскіх навук прафесар Уладзімір Конан, — значная падзея. З гэтым, напэўна, згодзяцца і нашы пастаянныя чытачы, якія за апошні год неаднойчы мелі магчымасць пераканацца ў слушнасці сказанага: «Голас Радзімы» змяшчаў артыкулы У. Конана, дзе аўтар выкладаў свае погляды на гісторыю беларускай культуры і яе сучасны стан, выказваў стаўленне да сітуацыі, у якой апынулася наша родная беларуская мова, яе ролі ў аднаўленні нацыянальнай свядомасці беларусаў. Гэтым важным праблемам прысвечана і кніжка вучонага «Святло для людзей», што выйшла нядаўна ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы».

Здаецца, яшчэ з універсітэцкіх лекцый ведалі мы пра старажытнасць беларускай мовы, яе выключную ролю ў Вялікім княстве Літоўскім, дзе яна была дзяржаўнай мовай, але толькі цяпер па-сапраўднаму адчуваем гордасць за сваіх продкаў, якія стварылі і перадалі нам у спадчыну літаратуру, фальклор і як першааснову ўсяго духоўнага — мову.

«Гісторыя сучаснай беларускай мовы — гэта жывое люстэрка, у якім глыбока выявіўся гістарычны лёс народа, яго культура, штодзённы побыт і духоўныя каштоўнасці, — піша У. Конан. — Яшчэ ў XIX стагоддзі вучоныя і пісьменнікі не толькі свае, але і братніх славянскіх народаў заўважылі і абвясцілі яе музыкальнасць, маральную чысціню, вобразнасць і прыгажосць».

Родная мова паўплывала на паскоранае развіццё нацыянальнай культуры ў XX стагоддзі, на творчасць класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Як залаты век нашай культуры ўспрымаем мы сёння вопыт моўна-нацыянальнай палітыкі 20-х гадоў — ленінскую эпоху ў сацыялістычным будаўніцтве. Тая палітыка партыі называлася беларусізацыяй, несла нашаму народу нацыянальнае адраджэнне.

Сёння дзякуючы перабудове, дэмакратызацыі грамадства беларусы маюць магчымасць адрадзіць, вярнуць статус дзяржаўнай беларускай мове. Аднак нам даводзіцца назіраць парадокс, які заключаецца ў тым, што на ўзлёце навуковай сістэматызацыі беларускай духоўнай культуры жывая беларуская мова страціла раней заваяваныя пазіцыі, яна амаль выціснута з эканамічнага і сацыяльна-палітычнага жыцця. Мы перажываем моўны крызіс, і калі не спыніць яго, адбудзецца музеізацыя нацыянальнай культуры.

Болем і трывогай прасякнута кніжка Уладзіміра Конана, заклікам да ўсіх нас шанаваць і ратаваць сваю мову, сваю культуру.

**Д. БАБАК.**

## ДАРУНАК БЕЛАРУСКАМУ ТАВАРЫСТВУ «РАДЗІМА»

# БУДЗЕ ПОМНІЦЦА ДОЎГА

Летам гэтага года я з дачкой Таняй пабывала ў гасцях у сваякоў у далёкім канадскім горадзе Ванкуверы. Гасцілі мы там некалькі тыдняў і, вядома ж, былі не толькі ў радні. Нас запрашалі да сябе многія беларусы, якія выехалі ў Канаду з даваенных «крэсаў» Польшчы. Ім хацелася як мага больш пачуць пра свой край, пра тое, як мы жывём, што ў нас добрага і што благога. А нам было прыемна бачыць родныя твары землякоў, чуць нашу гамонку, цешыла шчырая гасціннасць беларусаў. Нас уразіла і абрадавала, што за такія доўгія гады людзі не забылі свае традыцыі і мову.

Давялося нам быць і ў народным доме, дзе ладзіць свае мерапрыемствы Федэрацыя рускіх канадцаў. Ванкуверскі аддзел яе ўзначальвае энергічная Вікторыя Палівода. Нас здзівіла і ўцешыла, што на сходы, вечарыны, сустрэчы, а яны адбываюцца штотыднёва, у народны дом збіраюцца не толькі беларусы, прыходзіць многа ўкраінцаў і карэнных канадцаў. І ўсім добра, ніякіх звадаў. Можа гэта таму, што Федэрацыя рускіх канадцаў не адасабляецца, не замыкаецца ў нейкіх этнічных ці нацыянальных рамках, а шырока расчыняе дзверы для ўсіх, каго цікавіць яе дзейнасць і мэты, супрацоўнічае з Таварыствам аб'яднаных украінскіх канадцаў, рабочымі арганізацыямі Кан

Мы былі на абедзе, прысвечаным памяці Уладзіміра Гаўрыцкага, нашага суайчынніка, якога добра ведалі ў Ванкуверы не толькі ў беларуска-ўкраінскім асяроддзі і цанілі за яго дзейнасць, накіраваную на ўмацаванне міру. Колькі цёплых слоў пра яго мы пачулі ад украінцаў, беларусаў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, што жывуць у Ванкуверы.

Нас уразіў хор Ванкуверскага аддзела ФРК, выступленні якога нам давялося пачуць. Беларускія, украінскія, рускія песні гучаць у яго выкананні проста цудоўна. І мы як дарагую рэліквію прывезлі ў Мінск пласцінку і касету з запісамі Ванкуверскага хору беларусаў.

А яшчэ мы прывезлі цудоўную карціну «Ленін і Горкі». Па нашым меркаванні, гэта габелен. Аж два гады на яго стварэнне аддала былая жыхарка Шарашова Ганна Байко. Атрымалі мы гэтую карціну з рук Марыі Гаўрыцкай, якая прасіла перадаць габелен у дарунак Беларускаму таварыству «Радзіма».

Самае галоўнае, што будзе помніцца нам з дачкой, — гэта ўражанні ад гутарак з землякамі, ад сустрэч з такімі, здавалася б, далёкімі і такімі блізкімі людзьмі. Кранала ўвага да нас і да нашай краіны, памяць аб якой засталася ў сэрцах беларусаў на ўсё іх жыццё.

Праз «Голас Радзімы» нам хочацца падзякаваць усім, з кім сустракаліся ў Ванкуверы, перадаць нашым землякам шчырае прывітанне з Бацькаўшчыны, пажадаць усім добрага здароўя.

**Н. ПАЛІВОДА.**



## АД СУАЙЧЫННІКАЎ З БЕЛЬГІІ І ГАЛАНДЫІ



Гэта цырымонія ў Беларускім таварыстве «Радзіма» становіцца, бадай што, звычайнай. Які месяц назад тут упершыню адбылося ўручэнне прадстаўнікам абласцей, якія найбольш пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі, — Магілёўскай і Гомельскай — дара ад нашага суайчынніка з Заходняй Германіі Міхаіла Мельніка. І вось зноў, у лістападзе, адбылася перадача дара для тых, хто мае патрэбу ў пільным абследаванні і лячэнні, ад нашых землякоў з Бельгіі і Галандыі. Гэта былі прэпараты, медыкаменты і вялікая партыя сістэм, з дапамогай якіх бяруць кроў для аналіза. У прысутнасці намесніка старшыні Чырвонага крыжа БССР З. Паўловіч усе гэтыя так неабходныя сістэмы, якіх у нас наогул няма, і лякарствы былі перададзены прадстаўніку клінікі Беларускага навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны С. Карыцька.

— У час нядаўняй паездкі да суайчыннікаў у Галандыю, — расказвае першы намеснік старшыні Беларускага таварыства «Радзіма» М. Васілёнак,— да нас звярнуўся Уладзімір Жмур, старшыня таварыства «Пересвет», што знаходзіцца ў Галандыі, з просьбай прыняць добраахвотныя грашовыя ахвяраванні, сабраныя членамі таварыства ў фонд пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі. Мы параілі лепш набыць на гэтыя сродкі неабходныя прэпараты, прыборы, медыкаменты. Так была куплена і гэта партыя сістэм для аналізу крыві, лякарствы.

А ў Бельгіі нам уручылі сабраныя лякарствы і прэпараты. Ва ўсіх патрыятычных арганізацыях гэтых краін суайчыннікі збіраюць сродкі каб набыць на іх неабходныя нам медыцынскае абсталяванне, прыборы, прэпараты і як найхутчэй даставіць усё гэта ў Беларусь.

**НА ЗДЫМКУ: С. КАРЫЦЬКА (злева направа), З. ПАЎЛОВІЧ і М. ВАСІЛЁНАК у час перадачы сістэм і прэпаратаў, прывезеных ад суайчыннікаў з Бельгіі і Галандыі, у Беларускім таварыстве «Радзіма».**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## ПРА БРАТОЎ ЗА МЯЖОЙ

Сё мы назіраем надзвычайн, цікавасць беларусаў савецкіх да жыцця беларусаў за мяжой. Дзякуючы новым павевам, цікавасць гэта можа быць задаволена. Больш адкрытай стала дзейнасць Беларускага таварыства «Радзіма», праводзіцца падпіска ў Беларусі і ў краіне на газету «Голас Радзімы».

На гэтай хвалі ўсеагульнага інтарэсу ў Доме мастацтваў у Мінску нядаўна адбылася сустрэча грамадскасці горада з супрацоўнікамі і аўтарамі газеты «Голас Радзімы».

На сустрэчы былі вучоныя, артысты, выкладчыкі і студэнты вышэйшых навучальных устаноў, якім хацелася пачуць, колькі і дзе жыве беларусаў за рубяжом, якія прычыны прымусілі іх пакінуць Радзіму, бацькоўскі кут, чым цікавяцца яны і як спрыяюць умацаванню кантактаў з сённяшняй сваёй Бацькаўшчынай.

На гэтыя і многія іншыя пытанні адказаў рэдактар «Голасу Радзімы» Вацлаў Мацкевіч. Расказаў ён таксама і аб непасрэдных сувязях рэдакцыі з суайчыннікамі, якія прысылаюць да нас свае просьбы і запытанні, дзеляцца радасцямі і нягодамі.

Вучоны і пісьменнік Адам Мальдзіс успомніў сваю нядаўнюю паездку ў Вялікабрытанію, у Беларускі музей і бібліятэку імя Францыска Скарыны, у час якой меў цікавыя сустрэчы з беларусамі, палякамі і англічанамі, што зацікаўлены беларускімі справамі. З увагай было выслухана паведамленне Адама Мальдзіса пра тое, што з дапамогай суайчыннікаў на Радзіму вернуты бясцэнны слуцкі пояс і каштоўны старадрук.

У апошнія гады Таварыства «Радзіма» і рэдакцыя «Голасу Радзімы» ўмацоўваюць кантакты з нацыянальнымі беларускімі арганізацыямі ў розных краінах. Адным з такіх асяродкаў з'яўляецца «Полацак» непадалёку ад Кліўленда ў ЗША. Спявак Віктар Скрабагатаў быў некалькі гадоў назад госцем гэтай суполкі беларусаў у Амерыцы і на сустрэчы падзяліўся сваімі ўспамінамі.

Актрыса Лілія Давідовіч у Дэтройце гасціла ў сям'і беларусаў. Са здзіўленнем і ўзрушана расказала яна пра тое, што і праз многія гады не гасне ў свядомасці чалавека цяга да роднага слова і звычаяў таго народа, з якога ён паходзіць.

Супрацоўнікі рэдакцыі адказалі на пытанні прысутных.

**Д. ЧАРКАСАВА.**



# ВОЗРОЖДАЕТСЯ КУЛЬТУРА СОВЕТСКИХ КОРЕЙЦЕВ

В одном из парков Ташкента состоялся праздник межреспубликанской газеты советских корейцев «Ленин Кичи» («Ленинское знамя»). Участники праздника ознакомились с фотовыставкой, рассказывающей об истории и сегодняшнем дне газеты, встретились с корейскоязычными журналистами. На сценах парка выступили корейский ансамбль «Чен-Чун» республиканской государственной филармонии, корейские фольклорный и детский ансамбли из ряда колхозов Ташкентской области, где компактно проживают корейцы.

Корреспондент АПН взял интервью у редактора «Ленин Кичи» СО ЕН ХВАНА:

— Ваша газета выходит в Алма-Ате, а праздник прошел в Ташкенте. Почему?

— Потому что в Узбекистане проживает половина из примерно 420 тысяч советских корейцев, четверо из пяти наших собственных корреспондентов работают в Ташкенте.

— Какая цель праздника?

— Цель — увеличить популярность нашей газеты, пока тираж составляет 8 тысяч экземпляров, что нас ни в коем случае не может удовлетворить. Дело в том, что среди советских корейцев осталось не так уж много людей, умеющих читать на родном языке. Это является результатом свертывания культур национальных меньшинств, проводимого Сталиным и его последователями. На Дальнем Востоке, откуда корейцы как якобы неблагонадежные были насильственно переселены в Среднюю Азию и Казахстан в 1937 году, раньше были сотни школ, в которых дети корейцев могли учиться на родном языке, затем они были закрыты так же, как корейский педагогический институт. Обучение было переведено на русский язык. Этот язык помог корейцам приобщиться к огромным духовным ценностям, добиться успехов в общекультурном развитии. Но мы стали терять самобытность. И виним в этом, конечно, не русский язык, а идеологов административно-командной системы.

Наша газета, выходящая с 1938 года, лишь в последние несколько лет получила возможность писать правду о действительном, отнюдь не радостном положении национальной культуры.

С прошлого года мы начали публиковать уроки родного языка. Возрождение языка и самобытной национальной культуры является сейчас важнейшей темой на страницах «Ленин Кичи», а также в передачах на корейском языке, которые ведет республиканский радиокомитет Казахстана.

— Можно ли говорить о каких-либо переменах?

— Сделаны первые шаги к крупным переменам в культурной жизни нашего народа. В этом году в Алма-Ате выходит первый за многие десятилетия учебник корейского языка. Его авторы — школьная учительница Светлана Цой из колхоза «Политотдел» Ташкентской области и Владимир Кан — преподаватель корейского отделения Ташкентского педагогического института им. Низами. Это отделение по подготовке учителей корейского языка было открыто четыре года назад, но до высокого уровня учебного процесса из-за нехватки педагогов и учебных пособий еще далеко. В одной из школ Алма-Аты открывается класс по факультативному изучению корейского языка. В Ташкентской области таких школ уже 7. Это, конечно, крайне мало.

Наши ученые намерены совместно с Институтом востоковедения Академии наук СССР подготовить и издать «Историю советских корейцев».

Большие надежды мы возлагаем на открывающиеся в Москве и Алма-Ате корейские культурные центры. Они уже зарегистрированы. В Ташкенте центр находится в стадии организации. В культурных центрах будут классы по изучению родного языка, библиотеки, студии театрального и вокального искусства, национальной музыки и традиционной живописи, обрядовые службы.

**Владимир МИЖИРИЦКИЙ.**



Светлогорск. Новые жилые дома самого молодого в этом белорусском городе микрорайона Юбилейный.

Фото **И. ЮДАША.**

# САМОЛЕТ ДЛЯ КНИГИ ГИННЕССА

Долгое время высшие достижения принадлежали американским летчикам. Но недавно на авиационной выставке в Париже в таблице рекордов ФАИ произошли изменения.

Истребитель-перехватчик Су-27 (в таблице рекордов ФАИ зарегистрирован под названием П-42) внес ряд поправок к одним из самых престижных в авиации рекордов скороподъемности. Международная авиационная федерация утвердила в качестве мировых рекордов результаты полетов на Су-27 летчика-испытателя Опытно-конструкторского бюро имени П. О. Сухого Николая Садовникова. В одном полете он достиг высоты 9 000 метров за 44,176 секунды, 12 000 метров — за 55,542 секунды (в классе самолетов с турбореактивными двигателями весом до 16 тонн). В другом полете, уже в классе самолетов укороченного взлета и посадки, ему удалось набрать 3 000 метров за 25,428, 12 000 — за 57,367 и 15 000 — за 75,667 секунды. Пять высших достижений в этой области удалось ему «отобрать» у бывшего американского рекордсмена F-15 «Игл».

Что же представляет из себя рекордсмен? «Голубые молнии» (так называют эти двухдвигательные монопланы с двухкилевым оперением за их небесную окраску и стремительность полета) всем своим внешним видом говорят о своем предназначении: за считанные минуты отыскать в бескрайнем небе цель, настигнуть ее и поразить. Изящный силуэт «журавлика» завершается двумя гребнями — воздушными килями, по бокам от них — широкие «плавники» стабилизаторов, ставшие у самолета рулями высоты. Огнедышащие жерла форсажных камер, похожие на орудийные стволы, буквально выстреливают на взлете перехватчик в поднебесье.

Трудно передать всю динамику полета Су-27. То, что делали на нем летчики ОКБ Сухого летом 1989 года в Бурже, не вмещается в понятие простой, сложный или высший пилотаж. Это был шаг в новую эру авиации, демонстрация сверхманевренности истребителя.

Сенсацией салона стало исполнение приема аэродинамического торможения, получившего название «Кобра Пугачева» в честь ее первого исполнителя. Подобное пока не по силам ни одному истребителю мира. Самолет проходит над взлетной полосой в горизонтальном полете, стремительно разгоняясь. Кажется, он готовится к броску в поднебесье. Вскидывает нос, потом словно ломается в поперечной оси и, к изумлению зрителей, не уходит ввысь, а, почти лежа «на спине», летит по-прежнему в горизонте... хвостом вперед.

Рекордная скороподъемность и сверхманевренность — главные, но не единственные достоинства Су-27. Самолет имеет большой радиус действия, способен дозаправляться в воздухе и, конечно, «ходить» за два звука. Все эти его качества определяются прежде всего его уникальной тяговооруженностью.

— Двигатели самолета П-42, как и для прежних машин того же ОКБ, — говорит генеральный конструктор В. Чепкин, — созданы в традициях конструктора Люльки: рабочие температуры критические, степень сжатия воздуха компрессором максимально возможная, скорости вращения турбины высочайшие. Все параметры запредельные! Зато двигатель получился небольших размеров, дал выигрыш в весе самолета на целые две тонны, у него большой ресурс и, что важно для эксплуатации, он прост и удобен в ремонте.

К числу достоинств перехватчика относятся и электрическая дистанционная система управления самолетом с четырехкратным дублированием, и десять наружных узлов для подвески оружия, и прекрасный обзор из кабины, и удивительно мягкая посадка благодаря хорошим крыльям, создающим воздушную подушку.

«Плохая новость для НАТО, — писал в год появления на военных аэродромах нашего перехватчика журнал «Интеравиа», — заключается в том, что самолет Су-27 под кодовым названием «Фленкер» потенциально представляет собой самый способный в мире истребитель... Этот новый самолет фирмы Сухого является замечательной машиной...» Следует также учесть, что от Су-27 еще не взят максимум того, что вложили в него конструкторы, то есть потенциал перехватчика далеко не исчерпан.

Мировой рекордсмен, новейший боевой самолет Су-27 продемонстрирован на авиационной выставке в Париже. В этом результат новой политики нашей страны на международной арене, свидетельство оборонительной направленности советской военной доктрины. В новых условиях особенно необходимы открытые и точные данные о новейших образцах боевой техники сторон. Да и мы не скрываем, что, заботясь о разумной достаточности своей обороны, основной упор делаем на качественные параметры совершенствования ее технической базы. Яркое подтверждение тому — поправки к книге Гиннесса, сделанные советским истребителем - перехватчиком Су-27.

**Виктор ДОЛГИШЕВ.**

# ПЕРСОНАЖИ ФИЛЬМА—ТЮЛЕНИ

Делая фильм о тюленях, режиссер, наверное, всегда начнет съемку с высоты — скалы или вертолета. В таком случае в объектив попадает сразу все лежбище — медленно колышущееся море тесно сбитых животных. И только затем камера даст крупным планом отдельного тюленя — вот он, во всей своей красе: блестящий, лоснящийся, похлопывающий себя по толстому боку ластами, самодовольный, ленивый и медлительный...

Это, пожалуй, самые стадные животные на свете. А объяснение тому одно — полная беззащитность перед врагами. Спасение лишь в воде, но до нее надо доползти! А если враг, медведь или песец, уже рядом? Значит, неизбежны потери. Значит, нужны сторожа в этом сонном царстве, но таковых среди тюленей нет. Зато есть интересная особенность в их поведении: через определенные промежутки времени по очереди каждый из взрослых тюленей, как по будильнику, пробуждается, поднимает голову, озирается по сторонам и, если не замечает ничего опасного, вновь опускает голову и засыпает. И днем, и ночью. Чем больше в племени «народу», тем больше «проверок».

По месту обитания тюлени разделяются на материковых и островных. Островным, в том числе тюленю Рихарда, о котором пойдет речь, спасаться гораздо легче, нежели материковым. Они ночуют, как правило, на льдинах, с которых могут молниеносно спрыгнуть в воду, почувствовав опасность. Но у них — свои несчастья...

Тюлени Рихарда (островной подвид обыкновенных тюленей) во многом отличаются от своих материковых сородичей: намного превосходят их пс ичине, имеют более тем..ую серую окраску и яркий рисунок светлых колечек на спине. На лежбище ведут себя спокойнее и голоса почти не подают, только в случае опасности, на льдинах размещаются обособленно, по пять-десять особей. Кроме того, островные тюлени любят лежать поодиночке на выступающих из воды камнях, причем в очень интересной позе — приподнимая не только голову, но и задние ласты, напоминая силуэтом лодку. Такие «разреженные» лежбища обычны у нас на дальневосточных островах и на восточном побережье Камчатки.

Тюлени — явно выраженные рыбоядные животные, но могут поглощать любую живую пищу, какую найдут вокруг себя. Поэтому островные тюлени часто включают в свое меню моллюсков, креветок, даже осьминогов. Самостоятельно охотиться тюлени начинают с 2-, 3-х месячного возраста, а до того откармливаются материнским молоком. Надо сказать, что в младенческом возрасте тюлень мало похож на взрослых. В отличие от темно-пестрых и гладких родителей малыш от кончика носа до хвостика, включая и ласты, покрыт длинным пушистым светлым мехом. В такой мягкой шубе он не может плавать и все свои молочные месяцы постоянно находится возле матери. Но это касается только материковых детенышей.

Островные же тюлени выводят потомство на прибрежных камнях, порой затопляемых во время прилива. Так что детенышу в таких случаях приходится сразу после рождения знакомиться с водой. Новорожденный островной тюлень к этому вполне подготовлен: он появляется на свет коротконогим... кошерстым, сменив предшествующий белый пух еще в утробе матери. Правда, бывают случаи, когда этого не происходит, и у этих тюленей появляется белый лохматый детеныш. Но он тогда начинает быстро линять, причем полосами. В таком виде при резком контрасте темных вылинявших мест с белыми малыш как бы становится одетым в «меховой жилет» или, наоборот, «меховые штаны».

Короткая блестящая шерсть маленького тюленя после линьки в сочетании с тонкой кожей — первое несчастье для животных. Красивый пятнистый мех, легкий для выделки, издавна привлекает внимание охотников прибрежного населения. А в самом недавнем времени в связи с модой на изделия из тюленьих шкур он стал пользоваться большим спросом и на пушном рынке. На сегодняшний день в СССР, активно экспортировавшем тюлений мех, осталось около четырех тысяч островных тюленей...

С 1970 года в советских акваториях Дальнего Востока повсеместно и круглогодично запрещена промысловая, спортивная и любительская охота. Близ береговых лежбищ тюленя у дальневосточных островов ограничены судоходство и хозяйственная деятельность человека. Сейчас численность островных тюленей перестала сокращаться. И все же...

Взгляд с высоты на обширное лежбище спокойных и медлительных тюленей должен, видимо, приводить человека к успокаивающей мысли: как их много, целая тысяча! Но, по подсчетам экологов, за несколько последних лет с лица земли исчезли две тысячи этих беззащитных животных. Мы должны сохранить остальных.

**Татьяна РУССКИХ.**

# ВАЛАТОЎКА

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ — даўні аўтар нашай газеты. Яшчэ ў гады свайго студэнцтва, калі вучыўся на факультэце журналістыкі Беларускім дзяржаўным універсітэце, ён пісаў па заданню рэдакцыі артыкулы і інтэрв'ю. Цяпер Сяргей Астраўцоў — адзін з вядучых журналістаў абласной газеты «Гродненская правда». Сёлета ў часопісе «Маладосць» 30-гадовы гродзенскі журналіст дэбютаваў мастацкімі творамі. Прапануем вашай увазе адно з яго апавяданняў.**

— БЫЦЬ ЯМУ валатам, як і ўсе валатоўцы, і знаным чалавекам, інжынерам ці доктарам,..— прарочыла цётка-павітуха, выціраючы сабе ручніком рукі, і лагодна пазірала на парадзіху, што, спалатнелая, нерухома ляжала на ложку.

Дзіця, хлопчык, кугакала ў белых хвалях шчодра адрэзанага кужалю, смешна перабіраючы ножкамі, якія яшчэ не асвойталіся з тым, што зараз нарэшце льга выпрастаць сябе...

Што й казаць, было такое. Вядома ж, было. І адбывалася менавіта так. Ужо дайце веры. Бо пра самы той дзень апавядала яму калісьці бабка яго, нябожчыца Куліна. Так-так, у хаце жанкі скупіліся — хто быў паблізу, у гародзе корпаўся ці яшчэ дзе на гаспадарцы ўвіхаўся. «Людцы, хадзеце, чулі: Валатоўчыха дзіця нарэшце нарадзіла. Запозненае, ды яшчэ і хлопчыка!» Вось такая навіна абляцела таго разу іхнюю вёсачку. І ўсе, хто мог, прыйшлі павітаць новага аднавяскоўца ды сказаць добрае слова матцы яго. Ён часам уяўляў сабе гэтую сцэну, у якой першымі асобамі былі маці, суседка праз чатыры хаты і немаўля, гэта значыць сам ён. (Бацька тады быў дзесьці ў заработках.) Калі ж тое адбылося, божа ж мой... Неўзабаве вось усе шэсцьдзесят споўніцца. Каб не адна спрыяльная акалічнасць, дык рыхтавацца б яму прымаць калянжанскія віншаванні і пад духавы аркестр кветкі, купленыя на грошы з прафсаюзнае касы.

...Аўтобус, бітма набіты «пазік», быццам уздыхнуўшы, сашчапіў разам дзверы і ад'ехаў. На гравійцы застаўся чалавек, старамодна апрануты, але гарадскога выгляду. Паставіўшы валізак, ён разагнуўся і разгледзеўся навокал. Тут была, калі казаць па-газетнаму, яго малая радзіма.

Напоўніцу ўвабраўшы ў сябе чыстага вераснёўскага паветра, ён з замілаваннем вымавіў: «И дым Отечества нам сладок и приятен!..— і, перамаўчаўшы, сам не ведаючы навошта, сентыментальна дадаў: — Вот, почитай, приехал помирать в родные пенаты...»

Да яго роднай вёскі Валатоўкі ад гравійкі было недалёка, каля двух кіламетраў. Дарога, некалі добра ўбітая конямі ды калёсамі, паступова ўтравела (у вёсцы ж засталіся пераважна адныя старыя!), але крочыць ёю было латва, быццам ягоныя ногі і не былі кволыя на варыкоз. Абапал ляжалі палеткі, на якіх штосьці даспявала. Усё навокал цешыла чалавека. Толькі напаўдарозе вочы непрыемна ўразіла карціна раскапанага, як успаратае чэрава, кургана. Але крыху далей, у яшчэ не змеліяраванай нізінцы, папудзіў дзікіх галубоў, якія з пошумам выпырхнулі з хмызняку, чым падарожны застаўся відавочна ўсцешаны.

Мінула яшчэ колькі часу, паказалася аселіца. Вось і першая хата. На столку пры плоце ў мізэрным прамені вячорнага сонца грэлі свае косткі дзве старэнькія, спятрэлыя ды лядашчыя, як той самы плот. Яны запытальна, з цікаўнасцю спынілі на ім свае ўжо амаль бясколерныя вочы. Яму зрабілася нейк ніякавата, быццам ён і не чакаў сустрэць тутака людзей. Але нешта зварухнулася ў ягонай памяці, ён прыўзняў капялюш і прагаварыў чым ветлівей:

— Здравствуйте!

— Вой, дык гэта ж ці не Валатоўчысін Хведзька?!— замест адказу прымружылася, каб лепей паўзірацца, адна з іх.

— Э-э, да-да, Маруси сын я, Федор,— сумеўся ад неспадзяванасці, што адразу быў пазнаны праз столькі год.

...Бацькоўскую хату, пакінутую бог ведае колькі часу таму, як памёр бацька, ужо, напэўна, ніколі нельга было б вярнуць да жыцця. Начаваць прыйшлося спыніцца ў бабы Хадоры, суседкі, ды так і застаўся ў яе...

Цяпер была пара, вольная ад заняткаў. Студэнты былі на бульбе, а выкладчыкі мелі, можна сказаць, працяг улеткавага адпачынку. Прафесар Волат выкладаў у інстытуце стылістыку мовы. Выкладаў усё сваё сталае жыццё. Хоць выйшла гэта і досыць выпадкова. Надарылася ў свой час вольнае месца ў аспірантуры, дык так усё і сталася. Ішоў час, з цягам якога ён перааддольваў прыступку за прыступкай, агорваючы іх сам, без нічые дапамогі. І вось — пасада, аклад, адпаведны ёй, нарэшце, прафесарская кафедра. Толькі апошнімі гадамі яго чамусьці пачало турбаваць незадавальненне сабою, прычыну якога ён зразумеў не адразу. Але даўмецца да гэтага, як пазней зразумеў, было не дужа каб і складана. Бо выходзіла ж на тое, што не паспеў Волат як след уззяцца пісаць працу, пра напісанне якой марыў усе гады, а ўжо і цэлае жыццё, мяркуй, пражыта. Усё ў яго засталося ззаду, у мінулым. Жонка яго, хварэўшы на рака, даўно памерла. Дзеці раз'ехаліся за свет, хто куды. Адзін сын, каб будаваць новы горад, другі — трансчыгунку. Дачка, настаўніца, працавала дзесьці ў Афрыцы, навучала тамтэйшых дзетак.

Ён яўна быў заседзеўся ў горадзе. Кватэра, кнігі, шпацыры ў парку... Змена жыццёвага ладу мела на яго гаючы ўплыў. Дні цяклі, напэўна, трэба было ўжо і вяртацца, але ён анігадкі, нібыта і забыўся на ўсё. Думалася хораша, чыталася з асалодаю, ён нават вершы спрабаваў пісаць, чаго ад студэнцкіх гадоў з ім не здаралася.

**Седой курган,**
**Свидетель старины былой**
**И ратной славы,**
**Дремотный сон**
**Опановал тебя...**

Перадапошнія слова яўна выпіналася з агульнага шэрагу. Волат сноўдаўся па пакоі, сашчапіўшы за спіной рукі, мармытаў штосьці сабе пад нос, але нічога лепшага не прыдумаў, хоць на язык прасіўся патрэбны дзеяслоў, і таму ён мусіў пакінуць гэты занятак да наступнага разу.

Адвячоркамі яны з Хадорай перабіралі назбіраныя ўдзень грыбы, пілі праўдзівую гарбату з зёлак, нетаропка аб усім гаманілі. І часцей ад усяго пра курганы. Пра паданні і сівыя легенды аб асілках, што спяць у іх, ды аб курганнай кветцы. З сумам заводзілі размову аб збэшчаных гэтых магілах.

— Вучоныя з горада раскапалі, ды так і пакінулі. Ну тыя хоць штосьці для музея ўзялі. Хоць такая карысць. А свае, тутэйшыя хлопцы, з суседняй Капліцы, ліха на іх... Як гарадскія ад'ехалі, за рыдлёўкі таксама ўзяліся. Усё скарбу шукалі, выпіўкі ім мала было. А знайшлі адны шкілеты ды чарапкі. Патрушчылі ўсё...

Хадора скончыла, і яны пасядзелі моўчкі.

— Ды хіба дасі ты рады,— зноў пачала яна, як нібыта не могучы пазбавіцца болю ад развярэджанае раны.— Божа мілы, цяпер цэлы свет як з глузду з'ехаўшы. Пайшла сіла Валатоўкі нашай разам з курганамі. Далібог, як вада са студні,— яна зноў змоўкла, як бы даючы яму час адчуць гэтую страту.

— Ярылаву гару хоць не зачапілі яшчэ — абнадзеіла, каб нагнаць яшчэ большай скрухі, яна,— але на яе самыя ўжо сталічныя важуцца, парторг казаў людзям на сходзе. Вось налецяцца, мусіць, й наедуць. З жалезнікамі і рыдлёўкамі. Памірае Валатоўка наша...

— А что, не тот ли это курган, что подле леса? Куда, помнится, мальчонкой конфетку носил. Тот ли это, Хадора?— Не хочучы думаць пра адно нядобрае, паспрабаваў ён нейк з'іначыць гэты змрочны настрой.

— То й цяпер на Купалле носяць туды і цукеркі, і акраец хлеба. Носяць яшчэ яму людзі. Не забываюцца.

І ней[illegible]авялося ў прафесара бы[illegible] на Ярылавай гары. І п[illegible]ўгу. Потым дня без таго ўжо не мог пражыць. Нават і да лесу не хадзіў, у якім раней бавіць любіў свой час.

Аднойчы Волат шмат шпацыраваў, здарожыўся і захацеў пасядзець. Ён наогул шанаваў святыні, але тут, на гэтым узгорку, болей не было дзе сесці апроч каменя-валуна з нечытэльным старадаўнім надпісам. Усеўшыся, прафесар узяўся чытаць, у яго з сабою быў курс славеснасці для гімназій, бо ён надта падабаў старыя кнігі.

Неўпрыкмет, аднак, пачало імжэць. Пакрысе дождж мацнеў, а яго, Волата, нібы пакінулі сілы ў гэтым святым месцы. Напачатку ён спрабаваў абараніць галаву ад вады падручнікам, але дарма. Ну і хай сабе — апусціў ён рукі, і яму чамусьці зрабілася шкада сябе да шчымлення ў сэрцы, як у далёкім маленстве. Але паступова яго апанавала млявасць і абыякавасць да ўсяго. Дождж ліў, а ён сядзеў і маўчаў. І невядома, колькі гэта доўжылася.

«Грымотаў яшчэ не ставала толькі!» — падумалася яму раптам.

Ад нечаканасці ён паўтарыў гэтыя словы ўголас і ажно скалануўся: столькі мелі яны таемнай моцы і нейкі своеасаблівы моўны прысмак. Пасля гэтага Волат, крэкчучы, стаў на ногі, пачаў спускацца слізкай сцежкай, задзяваючы мокрыя халодныя хмызы. «Грымоты, гры-моты!» — з націскам паўтараў ён нараспеў, як нейкі марш, хлюпаючы па лужынах...

Вярнуўся ён дахаты ўжо шарай гадзінай і адразу злёг. Гаспадыня ўвіхалася каля яго ложка цэлую ноч і ўсё дакарала сябе: «Ах, божачкі! І як я не сцяміла... Усе хаты абышла. І дзе прапаў чалавек? Ніхто яго не бачыў. А ён жа, глянь, да Валатоўкі пайшоў...»

Волат, відаць, моцна застудзіўся, бо ніякія ўзвары з зёлак не палепшылі яму здароўя. Нараніцу паслалі ў мястэчка па доктара. Але хворы гарэў, як царкоўная свечка, і ўжо ўколы антыбіётыкаў нават не далі рады.

Хадора не адыходзіла ад яго.

— У мяне там, у горадзе, у кватэры, кніжка грашовая. То я табе перапішу ўсё. А мне без патрэбы,— спяшаўся сказаць ёй ён.— А пахавайце мяне пад тым каменем, на кургане. Хоць у апошні раз зрабіце, як гэта я сам хачу. Такая мая апошняя воля. То зрабі, Хадора, калі ласка... Просьба мая такая да цябе...

...Чатыры дужыя дзецюкі, якіх удалося спакусіць-умовіць за паўлітэрку, паволі неслі нябожчыка. Разам з Хадорай за трунай клыпалі колькі старых, а яшчэ, папераду ўсіх, узднімаўся мажны дзядзька, які меў крыж ды біблію і быў у вёсцы нібы за папа.

Здавалася, у веліччы гэтай карціны было штосьці язычніцкае, бо гэта быў Абрад.

Але не паспела дзіўная пахавальная грамада ўзняцца на курган, як пачуўся гук матора. Дзе сцежкаю, дзе кулінамі і дробным хмызняком, скачучы, імкліва набліжалася старшынёва машына, якую адразу пазналі.

Лядашты «газік» з выцвілым дахам спыніўся наводдаль, з яго, раз'ятраны, выскачыў сам старшыня, лямантуючы як дуж.

— Ану, стой! Куды?! Не паложана эт-та, і яму закапаць нямедлена. Слышалі? Хараніць толькі ў спецыяльна прэдназначаным месце...

Хлопцы апусцілі труну і, пацепваючы плячыма, каб крыху размяць цяглiцы, палезлі ў кішэні па цыгарэты ды запалкі.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

---

*СТАРОНКІ МІНУЛАГА*

# ЯЎХІМ ЛІТАВОР З РОДУ ХРАПТОВІЧАЎ

*Слава вялікіх людзей вымяраецца спосабамі, якімі яна дасягнута.*

**Ф. ЛАРОШФУКО**

Выслоўе «Не месца красіць чалавека, а чалавек — месца» ў дачыненні да Шчорсаў стасуецца, як гаворыцца, адзін да аднаго. У XVIII стагоддзі гэтае старажытнае беларускае паселішча атрымала шырокую вядомасць у цывілізаваным свеце і набыло славу буйнога асяродка культуры і навукі. Сюды, бы прававерныя мусульмане ў Меку, прыязджалі ўсе, хто вывучаў гісторыю і культуру Вялікага княства Літоўскага, у цэнтры якога, па вобразным вызначэнні Ф. Багушэвіча, «як зярно ў арэсе», знаходзілася Беларусь.

Якім чынам і чаму малавядомая каму нават на Бацькаўшчыне вёсачка з аднайменным маёнткам ускрай Налібоцкай пушчы, забыты тады людзьмі і богам глухі куток Навагрудчыны, набыла раптам еўрапейскую вядомасць? Пытанне гэтае не рытарычнае, бо Заходнюю Еўропу, дзе панаваў асветны абсалютызм, здзівіць было нялёгка. А сталася гэта дзякуючы ўсяго толькі аднаму чалавеку — Яўхіму Літавору Храптовічу, чалавеку высокаадукаванаму і шчодра адоранаму прыродай.

Кім жа ён быў?

Адказаць на гэтае, на першы погляд, простае пытанне адным словам немагчыма. У яго каларытнай асобе на рэдкасць суладна спалучыліся грамадскі дзеяч і філосаф, дзяржаўны чалавек і асветнік, публіцыст і паэт, гуманіст і дапытлівы прыродазнаўца.

Карані старажытнага роду Храптовічаў губляюцца дзесьці ў прадонні крывіцка-дрыгавіцкай гісторыі, шмат яшчэ ў чым таямнічай і мала даследаванай. Да нас дайшлі толькі цьмяныя звесткі з XV стагоддзя пра Багдана, бясспрэчнага прашчура Яўхіма Літавора Храптовіча. Тры сыны Багдана — Івашка Літавор, Марцін і Федзька — у канцы XV — пачатку XVI стагоддзяў нязменна займалі высокія дзяржаўныя пасады. Івашку Літавора, напрыклад, мы спачатку бачым падскарбіем надворным, затым — намеснікам слонімскім. Пасля дзевяцігадовага рускага палону, куды ён трапіў 14 чэрвеня 1500 года разам з гетманам Кастусём Астрожскім у бітве з руска-татарскім войскам на Міцькавым полі каля ракі Вядроша паблізу Дарагабужа, прызначаецца намеснікам драгічынскім, праз год — кобрынскім, дзе і памёр у 1513 годзе. Намеснік з'яўляўся непасрэдным прадстаўніком вялікага князя і валодаў усёй паўнатой адміністрацыйна-гаспадарчай, фінансавай і судовай улады. У выпадку вайны ў якасці ваяводы ўзначальваў войска падначаленай яму тэрыторыі.

Такое ж высокае становішча і амаль тыя ж пасады займалі ў розныя гады і яго браты Марцін і Федзька. Галоўная лінія роду Храптовічаў ніколі не губляла духоўнай сувязі са сваім народам. Не змяніў гэтай традыцыі і Яўхім Літавор, ён усё сваё жыццё трымаўся пратаптанай прашчурамі дарогі. Займаючы ў Вялікім княстве Літоўскім вышэйшыя дзяржаўныя пасады, Я. Храптовіч стала праводзіў палітыку добрасуседскіх стасункаў з Масквою на парытэтных пачатках. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай у канцы XVIII стагоддзя Вялікае княства Літоўскае перастала існаваць як суверэнная дзяржава і знікла з палітычнай карты Еўропы. Беларускія землі па тайнаму дагавору Кацярыны з Аўстрыяй і Прусіяй




Нечаканая бяда прымусіла механіка Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў Акадэміі навук БССР Сцяпана Бугайчука заняцца вынаходніцтвам. Дэльтаплан, на якім ён — член зборнай рэспублікі — здзяйсняў палёт, разламаўся ў паветры. Жывым Сцяпан застаўся цудам. Падаючы з вышыні, пашкодзіў пазваночнік, паламаў бёдры, ногі і на многія месяцы аказаўся прыкаваным да бальнічнага ложка. Намаганні ўрачоў, падмацаваныя воляй і аптымізмам Сцяпана Іосіфавіча і яго пастаяннай верай у спорт, дапамаглі зноў вярнуцца да жыцця. Добрым «трэнажорам» стаў для яго веламабіль, які дазваляе задзейнічаць усе мышцы, не напружваючы пазваночніка. Дзевяць мадэлей машыны стварыў Бугайчук сам. З іх дапамогай Сцяпан Іосіфавіч не толькі пачаў хадзіць, але і атрымаў магчымасць падарожнічаць. Ён ужо прайшоў 600 кіламетраў па Прыбалтыцы. Цяпер марыць аб больш далёкіх маршрутах, рыхтуючыся да якіх зноў «вынаходзіць веласіпед». Адно са сваіх вынаходстваў прадставіў Сцяпан Іосіфавіч на выстаўцы «Крок-89» з надзеяй, што яго хуткасная, манеўраная і вельмі зручная для людзей з парушэннем апорна-рухальнага апарату машына зацікавіць каго-небудзь з тых, хто зможа наладзіць яе вытворчасць.

**НА ЗДЫМКУ: Сцяпан БУГАЙЧУК на сваім веламабілі.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

# ПА ГІСТАРЫЧНЫМ ШЛЯХУ ПРОДКАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Арганізатарамі падарожжа выступілі Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры, Беларускі савет па турызму і экскурсіях і шэраг іншых арганізацый. Праграма падарожжа мае культурна-гістарычную, спартыўна-турысцкую, экалагічную і навукова-інфармацыйную часткі.

Экіпаж экспедыцыі, які ішоў толькі на вёслах і з выкарыстаннем ветразяў (такая абавязковая ўмова!) на дзвюх чатырохвесельных лодках тыпу Ял-4, складалі студэнты Беларускага політэхнічнага інстытута.

Урачыстае адплыццё адбылося 8 ліпеня 1989 года ад вытокаў Нёмана — з вёсачкі Наднёман, дзе ў мінулым стагоддзі жыў і працаваў выдатны беларускі вучоны - прыродазнаўца Якуб Наркевіч-Ёдка. Мясцовыя дзяўчаты ўручылі падарожнікам «каравай удачы», фальклорны ансамбль з суседняй вёскі даў канцэрт, маладыя мастакі з Мінска на беразе Нёмана зрабілі выстаўку карцін, прысвечаных роднаму краю. Назаўтра на коласаўскім Высокім Беразе ля Мікалаеўшчыны да смелых падарожнікаў далучыўся экіпаж са Смаленска.

З гэтага часу агульнае кіраўніцтва экспедыцыяй узяў на сябе вядомы падарожнік з Ленінграда правадзейны член Геаграфі[…] таварыства АН СССР, […]стар спорту, урач-хірург Юрый Жвіташвілі.

Першыя сто кіламетраў падарожжа […]раходзілі ў цяжкіх умовах. Толькі на Гродзеншчыне Нёман стаў болей праходны і даст[…] для праплыцця. Нягледз[…] на вялікую праграму даследаванняў, экспедыцыя змагла дайсці за няпоўны месяц да вусця Нёмана і 14-га жніўня пасля праходу праз Куршскі заліў яе сустракала Клайпеда. Агульная працягласць шляху па тэрыторыі дзвюх братніх рэспублік — Літвы і Беларусі — склала каля тысячы кіламетраў, гэта значыць, удзельнікі экспедыцыі праходзілі ў дзень 30—35 кіламетраў.

Пакуль што рана гаварыць аб выніках экспедыцыі, мы можам ацэньваць толькі яе спартыўную частку. Багатыя матэрыялы цяпер апрацоўваюцца з удзелам вучоных Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта. Але можна папярэдне сказаць, што шлях па Нёмане аказаўся значна цяжэйшым, чым па Заходняй Дзвіне, з-за хуткага цячэння ракі і вялікай колькасці перакатаў. Але калі ісці па цячэнні, ды і ў час паводкі, то нёманскі шлях здаецца эканамічна больш выгадным, бо ён карацейшы. Пры гэтых умовах ён мог выкарыстоўвацца даволі шырока, у тым ліку і для мясцовых перавозак, аб чым у раёне міжрэчча двух басейнаў на паўдарозе ў Слуцк гавораць старадаўнія назвы Валок, Пераволакі.

Што датычыць Міншчыны, то гэта акцыя дазволіла прыцягнуць увагу кіраўнікоў розных узроўняў да прапанаванага Беларускім фондам культуры комплексу мер па захаванню культурна-гістарычнай спадчыны ў вярхоўях Нёмана, у мясцовасці, якую мы завём Наднямоннем. У прыватнасці, выдзелены сродкі на праект узнаўлення вытокаў Нёмана.

Можна не сумнявацца, што для ўсіх, хто ўдзельнічаў у гэтым цікавым падарожжы (а гэта была ў асноўным моладзь), на ўсё жыццё застанецца павага да вялікай беларускай ракі, да народаў, якія знайшлі прытулак на яе берагах, да нашых далёкіх продкаў «варэжскага» мінулага. Калі яшчэ ўлічыць і тое, што такія падарожжы прапагандуюць здаровы спосаб жыцця, то іх карысць цяжка пераацаніць. Не выключана, што прыдбаны вопыт у далейшым зможа быць выкарыстаны і для больш рэгулярных падарожжаў, магчыма, і для міжнароднага турызму. Тут вельмі спатрэбіцца састаўленая экспедыцыяй карта гістарычных, археалагічных і культурных помнікаў, ацэнка іх стану, а таксама экалагічная карта ракі.

Акрамя нёманскай экспедыцыі, улетку прайшоў шэраг цікавых мясцовых падарожжаў аршанскіх энтузіястаў па месцах магчымых волакаў паміж прытокамі Заходняй Дзвіны і Дняпром у зоне Віцебска-Оршы.

Прэзідыум Геаграфічнага таварыства СССР у пачатку лістапада падвёў вынікі нёманскай экспедыцыі «з варагаў у грэкі» і ўзнагародзіў юбілейным медалём імя М. Пржэвальскага шлюпачны экіпаж Беларускага політэхнічнага інстытута на чале з Ю. Берагавым і групу аршанскіх аматараў, узначальваемую Э. Навагонскім. Асобныя ўдзельнікі атрымалі Ганаровую грамату таварыства.

Экспедыцыя закончылася, але беларуская частка праграмы «Наш Нёман» дзейнічае. Не пройдзена другая палова шляху — па Дняпры. Трэба абследаваць найболей кароткі шлях пераходу з Нёмана ў Днепр праз Шчару — Агінскі канал — Ясельду — Прыпяць. Цяпер рыхтуецца новая, на гэты раз ужо міжнародная экспедыцыя па варажскіх шляхах ад берагоў Скандынавіі да Стамбула. Яе маршрут пройдзе зноў праз Беларусь. З гэтай нагоды за мяжой і ў нашай краіне будуюцца набліжаныя да старажытных судны. Непарадзе вельмі цікавы варыянт міжнароднага «варажскага» маршруту з Нёмана па Аўгустоўскаму каналу, рэкам Бебжы, Нараве ў Віслу і далей у Балтыку (магчыма, з Прыпяці па Днепрабугскаму каналу ў Буг і далей у Віслу).

Трэба будзе дасканала вывучыць волакавыя месцы, у тым ліку пад Мінскам з Віліі ў Свіслач або Пціч.

**Уладзімір КІСЛЯЕЎ,**
**член краязнаўчай камісіі Беларускага фонду культуры.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**СІЛІНА Марыя Аляксандраўна** шукае сваякоў у ЗША.

У 1912 ці 1913 годзе яе цётка ВІКМАН Марыя Фёдараўна (Францаўна) разам са сваёй маці Вікман Эміліяй выехала з вёскі Дзянісавічы Ганцавіцкага раёна Мінскай вобласці ў Нью-Йорк, дзе жыў дзядзька ШЫРОКА Раман Робертавіч. Вядома, што прозвішча Марыі Фёдараўны па мужу Календа. Яе маці, Вікман Эмілія, па мужу Піцэўская, памерла ў 1924 годзе. Да 1936 года вялася перапіска.

Просьба да ўсіх, каму што-небудзь вядома аб родных Марыі Сілінай у ЗША, паведаміць у рэдакцыю або па адрасу:

**222410, Мінская вобл.,**
**г. Вілейка,**
**вул. Гагарына, дом 17, кв. 14.**
**СІЛІНАЙ Марыі Аляксандраўне.**


## НАШ АДРАС:

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 1422